Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 21 730.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-85-49

# НАВІНЫ



Пятніца, 17 красавіка 1998 г. | № 40 | Кошт свабодны

## СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## «Бацька» едзе на кірмаш

**22 красавіка, у дзень нараджэння Леніна, прэзідэнт Лукашэнка адправіцца ў ФРГ.**

Праўда, з кіраўніцтвам гэтай краіны ніякіх сустрэчаў не плануецца. Рыгоравіч наведае Гановерскі кірмаш. Акрамя таго, будзе выкарыстаная дыпламатычная тактыка, апрабаваная ў расійскіх губернях. Лукашэнка плануе сустрэцца з кіраўніцтвам двух федэральных земляў — Ніжняй Саксоніі і Шлезвіг-Хольштэйна. Як вядома, прэм'ер-міністр Ніжняй Саксоніі, 54-гадовы Герхард Шродэр з'яўляецца цяпер як бы апазіцыянерам Гельмута Коля — ён вылучаны ад сацыял-дэмакратаў кандыдатам на пасаду бундэсканцлера. Малаверагодна, што Шродэр згодзіцца сустрэцца з такой адыёзнай фігурай, як наш прэзідэнт.

Дарэчы, менавіта сацыял-дэмакратычная фракцыя ініцыявала восенню мінулага года разгляд унутрыпалітычнай сітуацыі ў Беларусі ў сценах нямецкага бундэстага. У прынятай рэзалюцыі гаворыцца, што прэзідэнт Лукашэнка, *«выкарыстоўваючы неканстытуцыйны рэферэндум, увёў аўтарытарнае прэзідэнцкае праўленне»*. Калі Лукашэнка не вернецца да дэмакратыі, то *«Беларусь не можа разлічваць на працяг эканамічнай, фінансавай і кансультатыўнай дапамогі з боку Германіі і еўрапейскіх краінаў»*, — адзначана ў рэзалюцыі. З таго часу сітуацыя ў Беларусі не палепшылася, працягваецца наступ на свабоду прэсы, парушаюцца іншыя правы чалавека. Няўжо афіцыйны Мінск разлічвае пераадолець ізаляцыю з дапамогай паездкі кіраўніка дзяржавы на Гановерскі кірмаш?

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Святлана Алексіевіч атрымала прэмію

**Беларуская пісьменніца Святлана Алексіевіч атрымала на кніжным кірмашы ў Лейпцыгу прэстыжную прэмію.**

На думку журы, дакументальная проза Святланы Алексіевіч дае магчымасць даведацца шмат новага пра душэўны стан людзей постсавецкага грамадства. Прэмію «Еўрапейскае ўзаемаразуменне» (у памеры 20.000 нямецкіх марак) уручыў С.Алексіевіч прэзідэнт ФРГ Р.Херцаг.

**Б.П.**

## Павел Севярынец без адваката

**Адвакат Гары Паганяйла не можа сустрэцца са сваім падабаронным Паўлам Севярынцам, лідэрам Маладога Фронту, які ўжо два тыдні знаходзіцца ў Мінскім СІЗО.**

Следчы пракуратуры Савецкага раёна Мінска Ігар Голубеў, які прыняў да расследавання справу П.Севярынца, не выдаў адвакату дазвол на сустрэчу з падабаронным, спаслаўшыся на тое, што Г.Паганяйла раней выйшаў са складу Мінскай гарадской калегіі адвакатаў і знаходзіцца цяпер у Маскоўскай калегіі. Як заявіў следчы, згодна з лістом мінюста, браць удзел у абароне па крымінальных справах маюць права толькі члены беларускіх калегіяў. Між тым, па словах Г.Паганяйлы, беларускае заканадаўства гарантуе абвінавачваемым права выбару любога адваката.

*БелаПАН*

## Падарунак пракурорам

**Сябры Паўла Севярынца зрабілі своеасаблівы падарунак пракуратуры г.Мінска.**

У сераду раніцай, калі работнікі пракуратуры ішлі на працу, на сцяне каля ўваходу іх сустракаў велізарны надпіс «Свабоду Севярынцу». Такія самыя надпісы зноў з'явіліся і на сценах «валадаркі», дзе сядзіць лідэр Маладога Фронту.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

## Сям'я просіць палітычнага прытулку

**Грамадзяне Беларусі — муж і жонка Уладзімір і Марына Матылёнкі разам са сваімі двума непаўналетнімі дзецьмі — папрасілі палітычнага прытулку ў Чэхіі.**

Сваё рашэнне Уладзімір Матылёнак матываваў тым, што на радзіме, па яго словах, падвяргаўся палітычнаму пераследу. Аграном па спецыяльнасці, ён быў звольнены з працы за тое, што ўзначальваў Верхнядзвінскую (Віцебская вобласць) арганізацыю БНФ. На працягу двух гадоў Уладзімір Матылёнак не можа працаўладкавацца і з цяжкасцю можа пракарміць сваю сям'ю. Цяпер Матылёнкі знаходзяцца ў Чэхіі, у лагеры для вымушаных перасяленцаў, чакаючы рашэння чэшскіх уладаў.

*БелаПАН*

*Валюта*

## Курс пайшоў уверх

**Курс долара на «чорным» рынку Мінска ўчора дасягнуў адзнакі 53 тысячы рублёў**

На «чорным» рынку наяўнай валюты перыяд адноснай стабільнасці змяніўся ростам курсу амерыканскага долара. Калі на працягу ўсяго мінулага тыдня каціроўкі трымаліся на адзнаках 47.000 рублёў пры пакупцы — 48.000 рублёў пры продажы, то ў першы дзень гэтага тыдня яны дасягнулі 48.000—49.000 рублёў, а ў аўторак выйшлі на мяжу 49.000—50.000 рублёў. Цяпер «чорны» рынак захліснула хваля ажыятажнага попыту, і, па прагнозах «ценявых» апаратараў, да канца тыдня курс продажу долара можа дасягнуць 55.000 рублёў. У абменных пунктах кацiроўкі «зялёнага» з 3 красавіка знаходзяцца на ўзроўні 45.000—46.000 рублёў.

*БелаПАН*

## Аптэкі забяруць?

У адміністрацыі прэзідэнта Беларусі падрыхтаваны праект дэкрэта аб фактычнай нацыяналізацыі недзяржаўных аптэк. Калі дэкрэт будзе падпісаны (а па нашых звестках, праект ужо пакладзены Лукашэнку на стол), гэта будзе першы выпадак экспрапрыяцыі цэлай галіны прыватнага бізнесу. (Падрабязнасці ў наступным нумары).

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## Рэха дня смеху

*Чырвона-зялёны сцяг — гэта дрэнны анекдот*

**Пяць мільёнаў рублёў штрафу атрымаў магілёўскі рабочы Алесь Асіпцоў за тое, што стаяў на вуліцы з чырвона-зялёным дзяржаўным сцягам.**

Было гэта 1 красавіка, у славуты дзень смеху. Пяцёра маладых людзей раздавалі каля цэнтральнага універмага Магілёва улёткі са словамі *«вялікай радасці за тое, што ў нас ёсць наш Аляксандр Лукашэнка — самы лепшы, самы мужны, самы прыгожы, самы справядлівы ў свеце прэзідэнт»*. А разам з імі стаяў Алесь Асіпцоў, які трымаў у руках сцяг. Ён нічога не рабіў, улёткі не раздаваў і ў размовы з прахожымі не ўступаў. Усіх хлопцаў міліцыя забрала ў пастарунак, дзе на іх склалі пратаколы. Але ў суд была перададзеная толькі справа «сцяганосца». Суддзя ўляпіў яму 5 млн. штрафу за тое, што (цытуем рашэнне): «Асіпцоў стаяў на вуліцы і трымаў дзяржаўны сцяг... Ён парушаў грамадскі парадак».

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# КДБ папярэджвае:

## «Вы сталі на слізкі шлях»

**Камітэт дзяржбяспекі вырашыў упарадкаваць вынясенне грамадзянам папярэджанняў аб «недапушчальнасці незаконных дзеянняў».**

Цяпер вынясенне такіх заўваг будзе рабіцца ў адпаведнасці з «Палажэннем» да загада № 33, падпісаным галоўным беларускім чэкістам Уладзімірам Мацкевічам. У дакуменце ўсё расстаўлена па паліцах, як інструмент у майстэрні добрага гаспадара. Ты яшчэ толькі падазраешся ў замаху на злачынства, а ўжо, калі ласка, прыходзь да чэкіста для прафілактычнай размовы. Чэкіст цябе ветліва папярэдзіць, складзе пратакол і прапануе ў ім распісацца. Калі адмаўляешся — калі ласка, патлумач, чаму. Атрымаў папярэджанне — ведай, што ў выпадку, калі ўсё ж злачынства зробіш, пратакол аб папярэджанні будзе падшыты да будучай крымінальнай справы. Каб потым не казаў, што не ведаў аб адказнасці.

У дакуменце, складзеным у нетрах КДБ, распісана і тое, хто мае права прымаць рашэнне аб тым, заслужыў ты ўжо папярэджанне ці за табой яшчэ трэба пасачыць без лішняга шуму. Гэтае сур'ёзнае рашэнне маюць права прымаць старшыня КДБ, ягоныя намеснікі ды начальнікі абласных кантораў. Прэс-служба КДБ завярае, што злоўжываць гэтым правам яны не будуць. Да таго ж, калі нейкі «папярэджаны» палічыць, што да яго чапляюцца беспадстаўна, ён можа абскардзіць дзеянні камітэтчыкаў у судзе, патлумачыў супрацоўнік прэс-службы КДБ Яўген Баброў. Ён таксама звярнуў увагу на пункт восьмы «Палажэння», згодна з якім камітэтчыкам загадана абавязкова інфармаваць аб вынясенні папярэджанняў у пракуратуру.

Між тым, апазіцыя ўжо ўспрыняла падпісанае Мацкевічам нованаўвядзенне ў штыкі. Адзін з лідэраў БНФ Вінцук Вячорка не сумняваецца, што загад № 33 стане ў руках камітэтчыкаў «псіхалагічнай дубінай» супраць іншадумцаў. На думку Вячоркі, «папярэджаннямі» будуць запалохваць не столькі актыўных апазіцыянераў (бо іх ужо нічым не здзівіш), колькі грамадзянаў, якія абуджаюцца зараз «з прычыны правалу палітыкі Лукашэнкі». Вячорка ацэньвае нованаўвядзенне як спробу дзяржавы легітымнымі сродкамі ўскладніць магчымасці грамадзянаў займацца палітычнай дзейнасцю і нават выказваць пасіўны пратэст супраць дзеянняў, якія не падабаюцца.

У той жа час незалежныя юрысты адзначаюць, што такая норма прафілактыкі злачынстваў, як папярэджанне, лічыцца дэмакратычнай і шырока распаўсюджаная ў заходніх краінах. Ёсць такая норма і ў нашым заканадаўстве, што рэгламентуе дзейнасць міліцыі і пракуратуры. Нібыта няма нічога дрэннага і ў тым, што папярэджваць будзе таксама КДБ — калі гаворка ідзе пра сапраўды крымінальныя падазрэнні. Але ўсё залежыць ад палітычнай рэальнасці, лічаць незалежныя эксперты. На іх думку, беларуская рэальнасць такая, што папярэджанні, хутчэй за ўсё, будуць выкарыстоўвацца не столькі для прафілактыкі злачыннасці, а ў першую чаргу для прафілактыкі апазіцыйнасці. У краіне, дзе пануе не закон, а воля аднай асобы, іншага чакаць і не даводзіцца, лічаць эксперты.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# Хрыстос уваскрос! Сапраўды ўваскрос!



**У гэтую нядзелю праваслаўныя вернікі адзначаюць сваё галоўнае свята — Уваскрасенне Хрыстова. Заўтра людзі панясуць у царкву хлеб і соль, булкі, яйкі, кілбасы — каб на святочным нядзельным стале была свянцонка.**

**Каталікі ўжо завяршаюць велікодны тыдзень. Але ж у нашай Беларусі святы здаўна доўгія: такая традыцыя. Скончыўся твой Вялікдзень — сваткуй з суседам. Скажы разам з ім словы радасці — «Хрыстос уваскрос!» Пацалуйся тройчы хрыстосаўскім пацалункам. Бог для ўсіх адзін.**

## «Вялікдзень-98»

У Траецкім прадмесці Мінска 19 красавіка адбудзецца фальклорнае свята «Вялікдзень-98».

У ім прымуць удзел 20 фальклорных калектываў, сярод якіх ансамбль «Слуцкія паясы» з вёскі Лучнікі (Мінская вобласць), вакальна-інструментальны ансамбль «Ліцвіны», фальклорны тэатры «Скамарохі» і «Бераг белых буслоў» з Мінска.

# Расіі трэба жывыя грошы

*«Газпром» пагражае скараціць пастаўкі газу на 50 працэнтаў*

**15 красавіка закончыўся тэрмін, адведзены для пагашэння Беларуссю запазычанасці па плацяжах за газ перад «Газпромам».**

Нагадаем, што з пачатку гэтага года запазычанасць Беларусі за пастаўленыя расійскія энерганосьбіты бесперапынна ўзрастала і на пачатак красавіка дасягнула 470 млн. долараў. Расійскі бок па-ранейшаму настойвае на новым механізме разлікаў, згодна з якім Беларусь павінна аплачваць грашыма не 30, а 70 працэнтаў пастаўленых энерганосьбітаў. Беларускае кіраўніцтва, у сваю чаргу, заяўляе, што не ў стане гэта зрабіць.

14 красавіка ў Мінску на семінары ў міністэрстве эканомікі свой пункт гледжання на сітуацыю з запазычанасцю выказалі эканамічныя эксперты праграмы *TACIS* у Беларусі. На іх думку, сёння ў Расіі фарміруецца ўрад, які будзе весці больш жорсткую грашова-крэдытную палітыку, а значыць, да расійскіх энергавытворцаў будуць прад'яўляцца больш жорсткія патрабаванні па своечасовым накіраванні плацяжоў у бюджэт. У такой сітуацыі «Газпром» будзе вымушаны патрабаваць ад Беларусі своечасовай аплаты за пастаўлены газ менавіта грашыма, бо, як падкрэсліў адзін з экспертаў, плаціць у бюджэт беларускімі тэлевізарамі немагчыма.

## Узаконеная беднасць

**Беларускае заканадаўства гарантуе кожнаму «свабоднае і годнае існаванне», але чамусьці не звязвае гэтыя паняцці з заработнай платай.**

Днямі суд Цэнтральнага раёна Мінска адхіліў іск Свабоднага прафсаюза да адміністрацыі Навукова-даследчага інстытута лічбавага тэлебачання аб'яднання «Гарызонт». Сутнасць канфлікту такая: супрацоўнік названага НДІ Алег Як'ян звярнуўся ў прафсаюз са скаргай на сваю адміністрацыю, калі атрымаў заработную плату за сакавік у суме 1,5 мільёна рублёў. Такія грашовыя сродкі, заявіў А.Як'ян, не забяспечваюць яму і ягонай сям'і гарантаванага Кодэксам законаў аб працы «свабоднага і годнага існавання» (артыкул 78 КЗаП). Суддзя Аляксандр Брагін, які прымаў рашэнне, патлумачыў, што ўзровень «свабоднага і годнага існавання» ў Беларусі заканадаўча не вызначаны. І калі нехта звязвае яго з мінімальным спажывецкім бюджэтам, які на сённяшні дзень складае 2,5 мільёна рублёў, то памыляецца: нічога падобнага не запісана ў кодэксе.

«Калі такія змяненні будуць унесеныя ў закон, я буду толькі рады, таму што мы сапраўды далёкія ад годнага існавання», — заявіў суддзя.

## Прапалі малюнкі Шагала

**У Віцебскім музеі Марка Шагала выяўлены недахоп некалькіх графічных работ, згаданых у спісе дароў ад нямецкага калекцыянера доктара Мандэля.**

Спадар Мандэль — даследчык творчасці і сябар сям'і мастака — у розныя гады дарыў музею працы Шагала, аднак некаторыя з іх адсутнічаюць. Выявілася гэта пасля з'яўлення ў музеі новага дырэктара; папярэдні перабраўся на жыхарства ў Заходнюю Еўропу.

*Беларусь — Украіна*

## Сустрэліся памежныя камандзіры

**У горадзе Хмяльніцкі (Украіна) адбылася двухдзённая рабочая сустрэча кіраўнікоў пагранічных ведамстваў Украіны і Беларусі.**

Віктар Банных і Аляксандр Паўлоўскі абмяркоўвалі магчымасць правядзення ў 1998 годзе шэрагу сумесных беларуска-украінскіх аперацыяў для прадухілення проціпраўнай дзейнасці на мяжы.

Паводле дадзеных украінскага інфармацыйнага агенцтва УНІАН, у 1997 годзе беларуска-ўкраінскую мяжу афіцыйна перасеклі 5,3 мільёна чалавек і 791 тысяча адзінак транспартных сродкаў. Украінскія пагранічнікі затрымалі 1.784 парушальнікі пагранічнага заканадаўства, з якіх 922 — нелегальныя мігранты. Апрача таго, летась на беларускім участку мяжы было канфіскавана 58 адзінак зброі і 2.556 адзінак боепрыпасаў, а таксама кантрабандных тавараў на агульную суму 182 тысячы грыўнаў. На цяперашняй сустрэчы кіраўнікі пагранічных ведамстваў падкрэслівалі, што становішча на мяжы складанае, але кантралюецца.

*БелаПАН*

*P.S. Дарэчы, на гэтым тыдні прэзідэнт Лукашэнка прысвоіў Аляксандру Паўлоўскаму* ***(на здымку)*** *чарговае вайсковае званне — генерал-лейтэнант.*



# З добрых намераў лапці не сплящеш

**Днямі новы старшыня Нацбанка Пётр Пракаповіч тлумачыў журналістам, па якіх шляхах будзе выходзіць з крызісу фінансавая сістэма краіны.**

Што тычыцца стратэгіі новага фінансавага курсу, то яе, уласна кажучы, няма. Так, Нацбанк адмаўляецца ад усялякай падтрымкі беларускага рубля на знешнім рынку і пераводзіць асноўныя аперацыі на рынак унутраны. Прасцей кажучы, калі раней той, каму гэта было патрэбна, мог абмяняць «зайцоў» на валюту на Маскоўскай міжбанкаўскай валютнай біржы па свабодным курсе, дык цяпер мусіць гэта рабіць выключна ў Беларусі і на ўмовах, устаноўленых нашым Нацбанкам.

Як лічыць П.Пракаповіч, гэта дапаможа зберагчы валюту, якая раней трацілася на падтрымку «зайца» ў Маскве. Прычым не будзе ніякага ўрону для беларускай эканомікі, паколькі, гаворыць галоўны банкір, кожнае беларускае прадпрыемства можа купляць у Расіі тавары за беларускія рублі, а расіяне — за расійскія ў Беларусі. Гэтае выказванне можна лічыць тыповай праявай эканамічнага рамантызму (калі не сказаць горш). Самой нашай дзяржаве для аплаты энерганосьбітаў патрэбная менавіта валюта, якой у нас няма. А наконт беларускіх прадпрыемстваў можна сказаць, што калі б яны ўсё, што патрэбна, маглі купляць за беларускія рублі, — то краіна ў нас даўно квітнела б, як вясновы сад.

Пакуль жа тыя нямногія прадпрыемствы-экспарцёры, якія за сваю прадукцыю атрымоўваюць рэальную валюту, а не толькі бартэрную сыравіну ды камплектуючыя, павінны ў прымусовым парадку прадаваць долары-марачкі дзяржаве, бо трэба ж неяк аплачваць энерганосьбіты. Праўда, дае слабую надзею шэф Нацбанка: у наступныя месяцы трэба чакаць паступовага скарачэння працэнта абавязковага продажу.

Пасля таго як беларускія рублі зусім знікнуць са знешняга рынку, Пётр Пракаповіч зможа ажыццявіць сваю даўнюю мару: самастойна ўстанаўліваць адзіны курс беларускай валюты, які і будзе названы рыначным. Інакш кажучы, вакол Беларусі будзе ўзведзеная нешта накшталт агароджы з калючага дроту, дзе адзіным грашовым сродкам і стане наш бедны рубель.

Для яго падтрымкі плануецца выкарыстаць валютныя запасы насельніцтва. Толькі ці ўдасца выманіць іх у народа? Улады лічаць, што можна. Дзеля гэтага патрэбная толькі такая «дробязь», як адраджэнне даверу насельніцтва да фінансавай палітыкі дзяржавы. Таму ўжо ў бліжэйшы час прэзідэнт павінен падпісаць дакументы аб салідных(?) гарантыях дзяржавы.

Гэта, бадай, і ёсць самае цікавае. Здаецца, Лукашэнка нарэшце зразумеў, што натуральны эканамічны рост немагчымы без рэалізацыі жадання людзей укладваць сродкі ў лепшае жыццё?

Але ці не запозна? Як кажуць дасведчыя людзі, амаль усе, у каго былі гэткія капіталы, даўно іх вывезлі «за бугор». Ды і давер людзей — гэта рэч, якую значна прасцей страціць, чым здабыць. Мо, таму на электарат нацэлілі зброю з галоўнага калібра: другім дакументам, які хутка падпіша прэзідэнт, будзе ўказ аб кампенсацыі ўсіх страчаных насельніцтвам укладаў. Вось так: іншыя адбіралі, а Лукашэнка возьме і ўсё верне. Аднак жа трэба разумець, што кампенсацыя поўнай ніколі не бывае. Па-другое, каб што-небудзь аддаваць, трэба яго мець ва ўласнай кішэні. А калі там адно вецер свішча, то застаецца толькі падлічваць грошы ў кішэнях чужых.

У гэтай сітуацыі можна верыць толькі ў добрыя намеры, але ж з іх, як той казаў, лапці не сплящеш.

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ**

# Ці панясе народ долары ў банк?

*Урад усур'ёз вырашыў прыцягнуць у фінансавы абарот валютныя сродкі грамадзянаў*

Мера гэта добрая і правільная. Па словах П.Пракаповіча, цяперашняга старшыні Нацбанка, на руках у жыхароў Беларусі знаходзіцца каля 2 млрд. долараў. У тым, каб грошы не ляжалі схаванымі ў панчоху, а працавалі, зацікаўленыя ўсе: эканоміцы — гэта дадатковыя абаротныя сродкі, а людзям — даход.



14 красавіка на нарадзе ў прэзідэнта Лукашэнкі абмяркоўваўся праект дэкрэта «Аб некаторых мерах па забеспячэнні захаванасці сродкаў фізічных і юрыдычных асобаў у замежнай валюце, што знаходзяцца на рахунках і ўкладах у банках краіны». Чакаецца, што гэты дэкрэт будзе падпісаны ў самы бліжэйшы час. Сутнасць дэкрэта ў тым, што дзяржава бярэ на сябе адказнасць за валютныя ўклады. Перш за ўсё гарантуецца, што прымусовай канвертацыі валютных укладаў у беларускія рублі не адбудзецца.

Неабходнасць у такім дакуменце існуе, на думку спецыялістаў, даўно. Яна вынікае са становішча, якое перыядычна назіраецца на рынку валютных укладаў — як толькі рэзка падае курс беларускага рубля і ў дзяржавы абвастраюцца праблемы з СКВ (напрыклад, як у мінулым месяцы), дык адразу распаўсюджваюцца чуткі, што дзяржава канфіскуе валюту, а ўклады людзям аддадуць «зайчыкамі». У выніку публіка пачынае забіраць валюту з банкаў, і гэта яшчэ больш пагляблые крызіс.

Падобная сітуацыя назіраецца з году ў год. Напрыклад, летась у пачатку лютага ў банках было сабрана валютных укладаў на агульную суму ў 143,4 млн. долараў, але ўжо на пачатку красавіка сума скарацілася да 123 млн. долараў. Дакладнай статыстыкі гэтага года яшчэ няма, але папярэднія звесткі практычна не адрозніваюцца ад дынамікі 1997 г.: у сакавіку людзі кінуліся забіраць свае долары з банкаў. І гэта нягледзячы на тое, што пры рэзкім падзенні курсу беларускага рубля валютныя ўклады — самы прыбытковы з усіх даступных шырокаму колу насельніцтва варыянтаў выкарыстання грошай.

Па сведчанні спецыялістаў банкаў, высокі ўзровень даходу па ўкладах у валюце атрымліваецца за кошт апераджальнага росту курсу наяўнага долара (у параўнанні з працэнтамі па рублёвых укладах), плюс стаўка па валютных укладах, якая ў большасці банкаў складае 12-16% гадавых (у залежнасці ад умоваў і тэрмінаў). У выніку даход ад пераводу беларускіх рублёў у долары і ўкладання гэтай валюты ў банк у сакавіку, напрыклад, прыносіў 65-70% гадавых. У той жа час працэнтная стаўка па рублёвых укладах не перавышала 50% гадавых.

Праўда, у некаторых банках існуе практыка выдачы працэнтаў па валютных укладах рублямі, што абмяжоўвае даход, таму ўважліва чытайце тэкст банкаўскай умовы. Дарэчы, хваляваца за лёс сваіх грошыкаў, укладзеных у невялікі банк, няма падставаў: уклады абавязкова страхуюцца ў Нацыянальным банку.

Па прагнозах спецыялістаў, на першым месцы па даходнасці валютныя ўклады застануцца і ў красавіку-траўні. Прычыны тыя ж — курс долара працягвае расці на рэальным рынку, а працэнтныя стаўкі па ўкладах у беларускіх рублях паранейшаму нізкія.

**Алесь САДОЎСКІ**

# Рызыкоўны занятак

**Распаўсюджванне незалежнай прэсы з'яўляецца ў нас небяспечнай справай. 46-гадоваму прадаўцу газетаў Мікалаю Раманаву пагражае канфіскацыя маёмасці.**



*Распаўсюджвальнік незалежнай прэсы Мікалай Раманаў у руках мінскага спецназа (фота з архіва СВАБОДЫ).*

На працягу апошніх двух гадоў Цэнтральны суд Мінска разгледзеў некалькі міліцэйскіх заяваў на М.Раманава, які «прадаваў газеты з рук, без адпаведнага дазволу, у неўстаноўленым месцы, ды яшчэ карыстаўся драўлянай скрыняй». Мікалай распаўсюджваў незалежную прэсу каля падземнага пераходу станцыі метро «Кастрычніцкая», а сярод ягоных пакупнікоў быў, нават дзяржсакратар Савета бяспекі Віктар Шэйман. Неабходны для распаўсюджання дакумент выдала «Белорусская деловая газета». Аднак для міліцыянтаў гэтага было недастаткова, і яны складалі рапарты на распаўсюджвальніка.

Суд правёў каля дзесяці працэсаў і аштрафаваў Мікалая Раманава на сумы ад 50 да 300 тысячаў рублёў за адно і тое ж «парушэнне». Беспрацоўны М.Раманаў не мае магчымасці выплаціць штрафы, якіх набралася на 1 мільён 113 тысячаў рублёў. Акрамя таго, ён лічыць сябе невінаватым, бо закон аб друку тлумачыць, што продаж тыражу з рук не падлягае абмежаванням. Цяпер жа Савецкі суд Мінска пагражае канфіскаваць маёмасць Мікалая, калі ён не выплаціць мільён. Дарэчы, канфіскацыя да М.Раманава была ўжо прымененая. Суддзя Цэнтральнага раёна, акрамя прызначанага штрафу, пастанавіў аднойчы *«канфіскаваць у доход дзяржавы друкаваныя выданні: газеты «Имя» — 2 экз., «Свабода» — 2 экз., «Свободные новости» — 2 экз. і «Народная воля» — 2 экз.»* Можна не сумнявацца, што бедная дзяржава значна пабагацела, набыўшы прыстойныя газеты.

Як распавёў Мікалай, ягоным калегам — распаўсюджвальнікам свабоднага слова — таксама даводзіцца цярпець ад стражаў парадку. У аднаго канфіскавалі газеты амаль на мільён рублёў, другога адвезлі ў пастарунак. Сам Мікалай Раманаў стаў «небяспечным» для міліцыянтаў яшчэ ў траўні 1996 года. Падчас пікета ў падтрымку арыштаваных удзельнікаў «Чарнобыльскага шляху» Мікалая самога арыштавалі на 15 сутак. У рапарце міліцыянта Віктара Бучацкага гаворыцца, што Мікалай *«нецэнзурна лаяўся на прэзідэнта РБ»*. Па словах таго ж Бучацкага, *«у гэтага мужчыны была цяжкая сумка з газетамі, якой ён біў мяне па спіне»*. Магчыма, міліцыянтам лепей замест дубінак насіць сумкі з прэсай? Не знайшоўшы справядлівасці ў праваахоўнай сістэме, Мікалай Раманаў звярнуўся са скаргай у місію АБСЕ.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

*А.Лукашэнка: «Аб выкананні далажыць!»*

# Домаш без дома

Барацьба з карупцыяй і ўсякімі злоўжываннямі сярод чыноўнікаў з'яўляецца казырнай палітычнай картай Лукашэнкі яшчэ з часоў перадвыбарчай кампаніі. Апошнім часам Рыгоравіч усё часцей выкарыстоўвае яе і ў барацьбе з палітычнымі апанентамі. Паказальны прыклад — справа члена прэзідыума Вярхоўнага Савета Сямёна Домаша.



*Сямён Домаш.*

Сутнасць канфлікту ў наступным. У сакавіку 1994 г. Сямён Домаш, тагачасны старшыня Гродзенскага аблвыканкама, быў вымушаны аддаць у гарадскі жыллёвы фонд сваю прыватызаваную чатырохпакаёвую кватэру і перабрацца ў асобны дом: гэтага патрабавалі КДБ і МУС. Нагадаем, што падобныя меры па ахове высокіх дзяржаўных чыноўнікаў сталі прадпрымацца пасля забойства папярэдніка Сямёна Домаша ў губернатарскім крэсле Дзмітрыя Арцымені. Домаш сцвярджае, што за ўласныя сродкі выкупіў у дзяржавы стары дом, які патрабаваў капітальнага рамонту і рэканструкцыі, і за свае ж грошы прывёў яго ў належны стан.

Пасля прэзідэнцкіх выбараў Лукашэнка прызначыў на пасаду гродзенскага губернатара свайго надзейнага саперніка па прэзідэнцкай гонцы Аляксандра Дубко, а Сямён Домаш быў неўзабаве абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета. Не прызнаўшы рэферэндум 1996 г. С.Домаш трапіў у лік «ворагаў прэзідэнта». Летась Лукашэнка публічна абвінаваціў Домаша ў арганізацыі ў Гродне «политических демаршей» (мелася на ўвазе стварэнне абласнога Каардынацыйнага камітэта грамадскіх арганізацыяў) і даручыў старшыні камітэта Дзяржкантролю М.Дамашкевічу і старшыні Гродзенскага аблвыканкама А.Дубко разабрацца з *«незаконнай прыватызацыяй Домашам дзяржаўнай маёмасці»*. Дамашкевіч склаў дакладную запіску, а Лукашэнка паставіў рэзалюцыю: *«А.Бажэлку, М.Дамашкевічу. У тэрмін да 1 жніўня 1997 г. уласнасць дзяржавы павінна быць ёй вернута. Аб выкананні далажыць»*.

У жніўні суддзя Ленінскага раёна г.Гродна Т.Клімава прыняла рашэнне: дамову аб куплі-продажу дома прызнаць несапраўднай. Прычым, па словах Сямёна Домаша, суддзя нават не прыслухоўвалася да яго довадаў. Іншыя судовыя інстанцыі (аж да старшыні Вярхоўнага суда Валянціна Сукалы) рашэнне райсуда пацвердзілі. Такім чынам, усе фармальнасці захаваныя, і дом у вядомага гродзенскага апазіцыянера трэба забіраць. Але як гэта зрабіць? Не выкінеш жа сп.Домаша з усёй сям'ёй і пажыткамі проста на вуліцу. С.Домаш спадзяецца, што ягонай сям'і з 6 чалавек прадаставяць іншае жыллё. Ён гаворыць, што ў гэты дом цяпер збіраецца засяліцца кіраўнік Гродзенскай вобласці Аляксандр Дубко — чалавек «чысты і чэсны» і да ўсяго вельмі адданы прэзідэнту. За тры гады гродзенскі губернатар памяняў некалькі службовых аўто і, па інфармацыі С. Домаша, урэшце спыніў свой выбар на новым «Мерседэсе-420» коштам больш за 100 тысячаў нямецкіх марак. Домаш пры гэтым сцвярджае, што з санкцыі А.Дубко за дзяржаўныя грошы набываюць сабе жыллё многія абласныя чыноўнікі — у прыватнасці, начальнік КДБ Гродзенскай вобласці В.Мацюшка. Ім значыцца можна.

Домаш у змаганні за дом спрабаваў прайсці да канца ўсю бюракратычную лесвіцу і накіраваў скаргу аб парушэнні сваіх правоў на імя Лукашэнкі. У выніку атрымаў адказ ад начальніка аднаго з упраўленняў прэзідэнцкай адміністрацыі І.Сідаровіча. Маўляў, вы, Сямён Мікалаевіч, у рабоце Вярхоўнага Савета ўдзел прымаеце, харты там розныя падпісваеце, прэзідэнта крытыкуеце, дык чаго ж вы да яго скардзіцца ідзяце? Прэзідэнцкі чыноўнік, відаць, не ў курсе, што перад законам роўныя ўсе — незалежна ад палітычных поглядаў.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Трагично, но факт

*Официальный Минск пытается убедить Организацию Объединенных Наций, что в Беларуси все в порядке с правами человека*

**Белорусская ситуация обсуждается сейчас в Женеве (Швейцария), где проходит сессия Комиссии ООН по правам человека. 14 апреля там выступил представитель белорусской оппозиции Андрей Санников — бывший замминистра иностранных дел. Мы получили полный текст его выступления, который публикуем с небольшими сокращениями.**

А.САННИКОВ: «Выступая от имени Международной лиги прав человека, я выступаю также как представитель Хартии-97 — гражданской инициативы, объявленной в ноябре прошлого года в Беларуси и подписанной на сегодняшний день более чем 70 тыс. граждан. В Хартии-97 заявляется намерение граждан *«сделать Беларусь свободной европейской страной, где защищены права человека, нет политзаключенных и каждому созданы достойные условия для жизни»*. Именно эту цель ставила и чехословацкая Хартия-77. Трагично, что 21 год спустя белорусские граждане сталкиваются с той же опасностью тоталитаризма и возврата к временам «холодной войны». Тоталитарный эксперимент, для которого характерно полное отрицание прав человека и основных свобод, сегодня в Европе не завершен. Он продолжается в Беларуси.

Международному сообществу хорошо известно, что в Беларуси действует нелегитимная конституция, которая позволяет злоупотреблять властью и осуществлять диктаторскую практику, свидетельством чему является ежедневное нарушение белорусскими властями прав человека. В то же время власти широко применяют двойные стандарты, заявляя о своей приверженности международным обязательствам в области прав человека.

Мы здесь услышали от официальной делегации Беларуси, как власти собираются праздновать 50-летие Всеобщей Декларации прав человека. Это не что иное, как проявление двуличия государства, не выполняющего свои международные обязательства, но, несмотря на установленные факты нарушения прав человека, пытающегося заручиться хоть какой-то международной поддержкой. В действительности годовщину в Беларуси отмечают весьма своеобразно. Даже во время работы сессии Комиссии появляются новые факты грубых и массовых нарушений прав человека.

Более 50 человек были схвачены в Минске 2 апреля по политическим причинам, за выступления в защиту независимости Беларуси. Многие были избиты, брошены в тюрьмы и ожидают уголовных приговоров, как, например, Павел Северинец, лидер молодежного оппозиционного движения. Его содержат в камере и не разрешают никаких свиданий. Вячеслав Сивчик, один из лидеров Белорусского Народного Фронта, после избиения милицией находится в больнице с сотрясением мозга. Другой лидер Фронта, Лявон Борщевский, был арестован только потому, что является активным деятелем оппозиции, поскольку во время демонстрации он находился совсем в другом месте. 15-летний Дмитрий Васькович несколько дней находился в тюрьме, практически лишенный пищи. На него оказывали физическое и психологическое давление. За политические взгляды студентов продолжают исключать из университетов.

Положение с правами человека в Беларуси ухудшается, и ситуация становится все более опасной. Недавно одна из государственных газет поместила статью, которая оправдывает репрессии 1917—1953 гг. в Советском Союзе, называя их исторически и юридически обоснованными. Ситуация в Беларуси требует срочного внимания международного сообщества. Беларусь должна быть включена в число стран для посещения специальными докладчиками, а прозвучавший на этой сессии доклад о свободе убеждений в Беларуси должен получить продолжение».

**После этого выступления правом на ответ воспользовалась официальная делегация Беларуси. Представитель белорусского МИДа С.Огурцов заявил почти буквально следующее:**

«Сегодня тут выступал уже второй раз представитель Международной лиги за права человека, но это никакой не представитель, а один из лидеров оппозиции, который пытается использовать трибуну ООН для того, чтобы рассказать о намерениях оппозиции. Здесь и не пахнет правозащитной деятельностью. Да и факты, которые он привел, какие-то жиденькие: кого-то арестовали, кого-то побили... А конституция, на которую он ссылается, была принята на референдуме, получила всенародную поддержку.

Сам факт, что он может выступать здесь, не опасаясь последствий, говорит сам за себя. А выступает он потому, что ему нужно отработать затраченные на его поездку средства. Сам он никого не представляет, личность серая, изгнанная из госструктур. Меня, честно, больше сегодня расстроило поражение московского «Спартака» от «Интера», чем его выступление».

После выступления Огурцова зал просто рассмеялся. Кстати, правом на ответ, кроме Беларуси, воспользовались Судан, Алжир, Ирак, Северная Корея.

**Нарушение прав человека в Беларуси отмечалось многими выступавшими. В частности, делегация Великобритании, выступая от имени Европейского Союза, заявила следующее:**

«Европейский Союз по-прежнему обеспокоен нарушениями прав человека и свободы выражения мнений в Беларуси. В 1997 году преследованиям подвергались газеты, издатели, журналисты и неправительственные организации по правам человека. Организаторы и участники демонстраций подвергались арестам, задержаниям и огромным штрафам. ЕС вновь подтверждает свою поддержку Консультативно-мониторинговой группе ОБСЕ в Минске и настоятельно призывает белорусские власти сотрудничать с ней для развития демократических институтов и реализации принципов ОБСЕ, включая уважение прав человека».

*Подготовил*
**Михаил ГРИГОРЬЕВ**

# На магіле Багдановіча трэба паставіць крыж

Чарговая хваля, узнятая ў Беларусі вакол пераносу праху Максіма Багдановіча, сведчыць аб адсутнасці самастойнага мыслення ў пэўнай часткі нашага грамадства. Відавочна, што імпульсы, якія стымулююць жаданне пераносіць прах, сыходзяць з расійскіх тэлеканалаў. Ужо каторы месяц на тэлеэкранах мільгацяць косткі — парэшткі сям'і Раманавых. Праблема ідэнтыфікацыі і пахавання шырока абмяркоўваецца ў расійскіх сродках масавай інфармацыі і ўскосна закранае душы беларусаў, якія ўзгадваюць, што і мы не горшыя, што і ў нас ёсць прах, які можна перанесці.

Пры гэтым ніхто не зважае на тое, што пахаванне парэшткаў царскай сям'і з'яўляецца выкананнем хрысціянскага абавязку, бо людзі гэтыя 80 гадоў не былі пахаваныя. А эксгумацыя «паэта чыстае красы» — апаганенне хрысціянскай магілы, бо Максім Багдановіч быў пахаваны, як належыць, і ўсе неабходныя абрады былі выкананыя ў маі 1917 года. Але на сённяшні дзень гэта мала каго цікавіць. У нашай атэістычнай краіне, дзе магілкі нішчыліся і рабаваліся, ніхто не дбае пра захаванне таямніцы смерці.

Ідэя пераносу праху гуртуе вакол сябе самых розных людзей — ад чыноўнікаў да вядомых авантурыстаў, накшталт Анатоля Белага. Сапраўды, «гэта патрэбна не мертвым, гэта патрэбна жывым». Ажыццяўленне гэтай ідэі гарантуе ўздым і ўмацаванне аўтарытэту той ўлады ці людзей, якія здзейсняць задуманае. Пры гэтым прыхільнікі ідэі пераносу праху не зважаюць ні на маральна-этычныя, ні на рэлігійныя, ні, нават, на матэрыялістычныя аспекты гэтай праблемы. Між тым, існуе шэраг малавядомых шырокай грамадскасці фактаў, якія тычацца магілы ў Ялце. Менавіта пра гэтыя факты і хочацца нагадаць.

Пахаваны паэт быў паводле праваслаўнага абраду з удзелам святара і псаломшчыка — пра гэта сведчыць знойдзеная ў 1990 годзе супрацоўніцай ялцінскага гісторыка-літаратурнага музея З.Г.Лівіцкай метрычная кніга сабора Аляксандра Неўскага з запісам пра смерць Максіма Багдановіча.

У «Матэрыялах да біяграфіі Максіма» (1923 г.) бацька паэта пісаў так: «Памёр ён 25(12) мая 1917 года, але я паведамленне пра гэта атрымаў на 4-ы дзень пасля яго смерці. Ён не даў гаспадыні майго адрасу, не жадаючы мяне трывожыць. Пасля яго смерці яна знайшла мой яраслаўскі адрас і тэлеграфавала па гэтым адрасе, а пакуль прыйшла тэлеграма з Яраслаўля (бацька паэта знаходзіўся ў службовай камандзіроўцы ў Сімферопалі — **П.К.**), быў ужо чацвёрты дзень. Я адразу на аўтамабілі накіраваўся ў Ялту. Але ён быў ужо пахаваны.

Пахавалі яго на Ялцінскіх могілках, што недалёка ад Мікалаеўскай вуліцы ў накірунку гор, на самым ускрайку могілак ля дарогі з супрацьлеглага мору боку, г.зн. з боку гор. У галавах пастаўлены белы крыж з надпісам на бляшанай таблічцы яго імя (студэнт Максім Адамавіч Багдановіч) і калі ён памёр. У дзвюх сажанях па прамой лініі ад галавы пахаваны студэнт Карысан. Паведамляю, як некаторую прыкмету».

Але ў той жа час бацька паэта адзначаў:

«Месца абрана надзвычай няўдала: ліўні і патокі з крутога схілу лёгка маглі размыць магілу. Я наняў вартаўніка, каб магілу ўмацаваць і ўпарадкаваць, пакінуў грошы гаспадыні, каб пасадзіць кіпарысы і куст ружаў, прасіў сачыць за гэтым двух знаёмых, у тым ліку і дачку майго саслужыўцы, асабістую знаёмую Максіма, але ці зроблена гэта — не ведаю. Праз некалькі дзён я паехаў у Крыму. Двойчы я пісаў з Яраслаўля знаёмым, але не атрымаў адказу: вядома, як дзейнічала ў гэты час пошта, ды і людзям было не да чужых магіл».

Пэўны час магілай Максіма Багдановіча ніхто асабліва не цікавіўся. А ў 1924 годзе Інбелкульт накіраваў у Ялту трох маладых паэтаў: Уладзіміра Дубоўку, Анатоля Ажгірэя і Андрэя Александровіча, якія мусілі адшукаць магілу Багдановіча, каб да 10-ых угодкаў смерці ўстанавіць на ёй помнік. Працэс пошукаў апісаны У.Дубоўкам у артыкуле «На Багдановічавай магіле» (часопіс «Узвышша», № 2, 1927).

Паводле ўспамінаў Уладзіміра Дубоўкі, на гарадскія ялцінскія могілкі яны трапілі 18 жніўня 1924 года: «Зацікавілі вартаўнікоў сыноў, якія ўзяліся дапамагаць шуканню. Прыйшлі на другі дзень, 19 жніўня. Хлапчукі прынеслі нам таблічку з жалобным надпісам, але крыжа няма... Аказалася, хлапчукі адрывалі таблічкі ад крыжоў і коўзаліся на іх з каменнай гары, па адхону гары. Ці варта вінаваціць іх? Гэта было адзінай забавай іх. Не пакрыўдзіўся б на іх і нябожчык, які меў такое замілаванне да маладога жыцця.

Знаходзім магілу, пра якую казаў Я.Дыла (верагодна, магіла студэнта Карысана — **П.К.**). Але навокал яе таксама магілы з паламанымі крыжамі. Урэшце, падабраўшы з зямлі планку, праверыўшы самыя дробныя дэталі, спыніліся ля шуканага. У правільнасці не магло быць ніякага сумліву.

У тым жа часе далі тэлеграму ў Менск, каб прыслалі грошы на пастаноўку помніка. Гэты помнік стаўляў ужо Цішка Гартны паводле свайго праекту, бо мы павінны былі ехаць дахаты. Перад ад'ездам сфатаграфавалі магілу, каб пасля не прыйшлося шукаць нанова. Таблічка ад магілы з жалобным надпісам і негатывы фатаграфіі перададзены намі Інстытуту Беларускай культуры».





*Так выглядае магіла Максіма Багдановіча цяпер.*
*На здымку злева: Ул.Дубоўка, А.Ажгірэй, А.Александровіч каля магілы Багдановіча ў жніўні 1924 г.*

Уладзімір Дубоўка не меў «ніякага сумліву» ў «правільнасці». Але, пагадзіцеся, пры чытанні ягоных успамінаў сумліў усё ж узнікае.

20-ыя гады былі эпохай ваяўнічага атэізму, таму стары крыж на ялцінскай магіле быў знішчаны, а на ягоным месцы з'явіўся помнік з шэра-брунатнага вапняку з чырвонай зоркай, які і стаіць там да сённяшняга дня.

«Мір праху тваіму» — гэтыя словы прагучалі над магілай Багдановіча ў Ялце ў 1917 годзе, але каго цікавяць яны ў 1998 годзе, калі людзі забыліся пра тое, што несмяротная толькі душа, а прах — гэта толькі прах. Нішто... Адбылася замена каштоўнасцяў: адарваныя ад хрысціянства, людзі вяртаюцца да першабытнага язычніцтва з культам продкаў і пакланеннем праху.

Дзеля гэтага на Старых гарадскіх могілках у Ялце можа з'явіцца «кампетэнтная камісія з Беларусі», якая вырашыць лёс магілы і таго, што ў ёй знаходзіцца.

А цяпер паспрабуем паглядзець на ўсё з матэрыялістычнага пункту гледжання. Магілу на Старых гарадскіх могілках раскопваюць... Можна ўявіць некалькі варыянтаў. У лепшым выпадку знаходзяць шкілет высокага мужчыны і гузікі ад студэнцкай курткі, г.зн. знайшлі парэшткі М.Багдановіча. Іх можна перанесці ў Мінск. Варыянт другі: знаходзяць жаночы ці дзіцячы шкілет. Што тады? Перакапаць усе могілкі ў пошуках жаданага? Нікому нічога не сказаць і перанесці безыменныя косткі ў Мінск? Альбо абвесціць вынікі экспертызы шырокай грамадскасці і знішчыць саму магілу? Пытанні непрыемныя, але ж яны вынікаюць з амаральнасці самой ідэі трывожыць тое, што з'яўляецца прахам.

Вельмі хацелася б, каб кожны прыхільнік ідэі пераносу зазірнуў сабе ў душу і спытаў у самога сябе: што такое прах і для чаго ён яму патрэбны.

Максім Багдановіч пражыў кароткае жыццё, поўнае духоўных і фізічных пакутаў, і пасля смерці яму не даюць супакою. Узгадайце: душы памерлага патрэбны спачын і памінанне. А памянуць Максіма можна ў царкве, таксама можна замовіць паніхіду ў дзень смерці і нараджэння. Трэба маліцца за ягоную душу.

А на магіле павінен нарэшце з'явіцца крыж. Часам здаецца, што менавіта адсутнасць крыжа на хрысціянскай магіле выклікае хвалі нездаровага энтузіязму. Толькі пасля таго, як на магіле з'явіцца крыж, наш доўг перад памяццю Максіма Багдановіча будзе выкананы. А што тычыцца догляду магілы, то вядомыя выпадкі ўтрымання ў прыстойным выглядзе цэлых могілак за межамі краіны. Было б жаданне і сродкі. Але ж раскапаць магілу значна лягчэй і танней...

Крыж на магіле прынясе супакой не толькі душы Максіма Багдановіча, але і ўсім нам.

**Паўліна КАЧАТКОВА**



# Рускі ўхіл

## *Веснавыя замалёўкі*

Ну й вясна сёлета! Халодная, але жураўлі ў Беларусь на месяц раней часу прыляцелі. Інфармацыйныя групы «вертыкалі» натхніліся, раз'ехаліся па раёнах, каб паведаміць працоўным пра «вельмі цяжкае станаўленне саюза Расіі і Беларусі». Нават міністр абароны трапіў у такую агітбрыгаду, якая наведала Навагрудскую швейную фабрыку і калгас імя Леніна. Генерал доўга тлумачыў людзям палітыку прэзідэнта і сутнасць беларускага эканамічнага цуду. Ну, а раз вясна, дык пацягнула яго і на лірыку. Наведаў міністр абароны мясцовы музей Адама Міцкевіча, які прыдумаў «Пана Тадэвуша» — самую вялікую і вядомую сваю паэму, у якой таксама пра генералаў рускіх і нават пра генералісімуса Суворава гаворыцца нямала, але без усякай пахвалы. Затое праслаўляецца генерал Дамброўскі — галоўны герой польскага гімна.

Невядома, як бы міністр абароны адрэагаваў на «крамольную» паэму, каб пазнаёміўся з яе зместам. Завялі ж летась у гэты самы музей прэзідэнта Лукашэнку. Маўляў, дзвесце гадоў Міцкевічу спаўняецца. А ён узяў ды ўсіх здзівіў, выдаўшы ўказ: лічыць 98-мы год годам Пушкіна. Потым яму, напэўна, патлумачылі, што пушкінскі юбілей толькі праз год пасля міцкевічаўскага і ўвогуле Адам — паэт свой, тутэйшы, а Аляксандр Сяргеевіч, пры ўсёй да яго павазе, — замежны. Карацей, справіў прэзідэнт сваю «паэтычную» памылку, яшчэ адзін указ зрабіўшы— наконт Міцкевіча, але больш «куцы».

Адначасова з інфармацыйнымі групамі па калгасных мехдварах і фермах падарожнічае з традыцыйным бізуном грозны дзяржкантроль. І выкрывае факты безгаспадарчасці, ды так, што потым не адкруцішся, бо ўсё робіцца па-сучаснаму, «з кіназдымкай». У калгасе падпольшчыка Заслонава ў Дзятлаўскім раёне знайшлі рэшткі камбайна «Колас», зрабіўшы кінасправаздачу. У калгасе «Расія» таго ж раёна іншыя непарадкі: на сеялках адсутнічалі «насеннеправоды». Б'юць, карацей, кантралёры ў званы. Не зважаюць, што ў гэтым калгасе такія ўраджаі, што ніякай Расіі не сніліся. Летась на невялікай, праўда, плошчы змалацілі па 126 цэнтнераў з гектара, а здаралася і па 130. Прычым гатунак гэткага ўраджайнага ячменю называецца «тутэйшы».

Варта было б гэты калгас пераназваць у «Канаду», але ж у нас усё больш у модзе менавіта Расія. Можа тады хай дзятлаўскія «расійцы» навучаць у якім Нечарназем'і сапраўдных русакоў, як трэба зямлю араць? Трэба ж неяк умацоўваць «саюз», у якога гэткае «цяжкае станаўленне». А то вунь трактарысты са Смаргоні надумалі махнуць на заробкі ў Чэхію, ураджаі палепшаць чэхам, якія ў НАТО прусць.

Не, даражэнькія! Аграпрам адразу скамандаваў: не пушчаць. Быццам трактарысты — прыгонныя сяляне. Ну, амаль прыгонныя. Заробкі малыя, дый тыя не выплачваюць.

Хай лепш да нас ездзяць вучыцца! Вось італьянцы прыехалі ў Навагрудскі раён паглядзець, як сяляне жывуць і ў калгасах працуюць. На ферме пабывалі ў вёсцы Ладзенікі, з рагулямі пазнаёміліся. А потым папрасіліся ў школу і ўбачылі тры драўляныя лядашчыя хаціны, якія стаяць з польскіх часоў. Уражаныя замежнікі пачалі вывaрочваць кішэні, каб скінуцца на школу. Але наяўных у іх было няшмат, таму новы школьны будынак, пачаты пяць гадоў таму, дабудаваць не атрымаецца. Можа ў агульным бюджэце «саюза» знайдуцца грошы на вясковую школу? Як бы не так!

Праўда, плады інтэграцыі адчуваюцца нават на мясцовым узроўні і заўважныя няўзброеным вокам. Вось, напрыклад, прыязджаў з расійскага пасольства прадстаўнік з медалямі «850 гадоў Маскве». 42 штукі прывёз — для абаронцаў Масквы ад нямецкіх полчышчаў. У аблвыканкаме свята было з шампанскім. Старшыня аблвыканкама А.Дубко спіч сказаў. Дарэчы, улады парадавалі ветэранаў, знізіўшы кошты стрыжак: да 20 тысячаў рублёў, а для дзяцей нават да 12 тысячаў. Прэйскурант абавязковы для ўсіх прыватных цырульняў. Не забылі і пра «інтэграцыю». Для жанчынаў распараджэннем аблвыканкама зацверджаная стрыжка «руская», прычым усяго за 20 тысячаў рублёў.

Цалкам у духу яднання з брацкім народам працаваў і падпольны гарэлачны заводзік у Ваўкавыскім раёне. Чатыры месяцы там разлівалася падробная гарэлка, прычым менавіта «Руская», а не якая-небудзь «Ваўкавыская». Міліцыя захапіла пяць тысячаў нявыкарыстаных этыкетак. Карацей, дбаюць ахоўнікі парадку, каб насельніцтва піло «Рускую», але не атручвалася.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

